© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ

Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

Рэдагуе Калегія, Адрыс Рэдакцыі: Цана 1 даляр

"The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217

№ 49 КРАСАВІК — 1978 — APRIL ГОД 24

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

### ДАСТОЙНАМУ СЬВЯТАРСТВУ, ПАБОЖНАМУ МАНАСТВУ І ЎСІМ БАГАЛЮБНЫМ ВЕРНІКАМ НАРОДУ БЕЛАРУСКАГА

**„Уваскрасеньне Твае, Хрысьце Спасе, Ангелы пяюць у нябёсах, і нас на зямлі спадобі чыстым сэрцам Цябе славіці".**

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Любыя і дарагія Браты і Сёстры нашыя!



Слава Збавіцелю Хрысту Богу нашаму!

Усемагутны Госпад Бог наш удастоіў нас ізноў пакланіцца Яго Сьветламу Ўваскрасеньню і вітаць адзін аднаго тым пачуцьцёвым, Сьветлым Прыветам — Хрыстос Уваскрос! — вітаць усіх, расьцярушаных па ўсім сьвеце, і на Бацькаўшчыне родзічаў нашых.

Нязьмерна глыбокім ёсьць зьмест таго Вялікоднага Прывітаньня для запраўдных вернікаў Царквы Хрыстовае. Злыдзень ня меў сілы, каб напачатку спакусіць Хрыста. (Мц. 4, 1-11). Спакусьнік усе пякельныя сілы зужыў, каб Яго зьняславіць, пахаваць укрыжаванага разам з целам, запячатаўшы гроб і паставіўшы варту каля яго. Супроць Хрыста была скіравана ўся злосьць, ўсё бяздоньне чалавечага ўпад-

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

ку, здрада, гвалтоўніцтва, зайздрасьць, нянавісьць, няўдзячнасьць, зьнявага, бясправуе і бязбожнасьць. Усё гэта было азбраеньнем злыдня сярод грэшных людзей — супроць Хрыста.

Здавалася-б, што надыйшла поўная перамога сілаў злыдня. Што няма ўжо ратунку для сьвету, бо ўсё чалавецтва ахоплена злом. Але Сваім Уваскрасеньнем Хрыстос зруйнаваў дзяржаву пекла, а тым самым і надзею злыдня на перамогу. Пасьля сьмяротных мукаў, пасьля крывавае Галгофы Ісус Хрыстос Уваскрос і ўзьнесься на Неба. Не пакінуў нас сіратамі на грэшнай зямлі, а заклаў нам Сваю Сьвятую Царкву, Царкву Новага Запавету.

Новая Царква сталася Сьвятлом для Сьвету, бо Сам Хрыстос стаўся Яе Галавою. „Вы Сьвятло для Сьвету" (Мц. 5-14), прамовіў Хрыстос да Сваіх Вучняў, і гэтак вечна прамаўляе да нас у Сваёй Царкве аж да сягоняшняга дня. Бо Царква ясна асьвятляе праўдзівым Сваім Сьвятлом увесь сьвет і разганяе ўсялякую цемру і змрок. Пасылаючы Сваіх Вучняў на пропаведзь, Хрыстос казаў ім: „Ідзеце навучайце ўсе народы" . . . (Мц. 28, 19-20), каб праз Царкву пашырыць па ўсім сьвеце Ягоную найважнейшую навуку, прагалошваючы да ўсіх, „каб былі беззаганнымі, як беззаганны Айцец ваш Нябесны" (Мц. 5, 48).

Хрыстос ў Сваёй Царкве яднаецца з усімі намі і голасна заклікае нас: „Хто верыць у Мяне, у таго з нутра пацякуць рэкі вады жывое" (Ян. 7, 38).

Адноўленая нашая Сьвятая БАПЦарква ўспрыняла і абвяшчае гэтыя вялікія Запаветы Хрыста людзям добрае волі. Яна ўзмацняе, натхняе надзеяй і стала прыпамінае Словы Хрыста: „Я ёсьць Уваскрасеньне і Жыцьцё, і хто верыць у Мяне, хоць і памрэ, жыць будзе" (Ян 11, 25).

Для нас на эміграцыі ад Бога прызначана вялікае заданьне: зьберагчы сьвятую іскру беларускае душы. Заданьне гэтае ня лёгкае. Мы фізычна расьцярушаны ў хвалюючым жыцьцёвым акіяне розных рэлігіяў, розных веравызнаньняў, нацыяў і расаў. Хвалі таго акіяну захлынаюць і нашыя душы. Мы жывём у часе розных заклікаў да „аб'яднаньня", за „паяднаньне" і супрацоўніцтва паміж дзяржавамі, нацыямі, рэлігіямі і Цэрквамі. А ці гэтыя заклікі за аб'яднаньне ёсьць запраўднымі, ці толькі іншы спосаб, каб, як і раней, большая сьвецка-палітычная ці іншая сіла праглынула й падпарадкавала сабе слабейшую сілу. Таму мы павінны быць самі рэлігійна-нацыянальна моцнымі і зьяднанымі, каб чужыя вонкава-рэлігійныя ці палітычныя сілы не маглі пранікнуць у нашую рэлігійна-нацыянальную душу. Мусім добра памятаць, што на нас скіраваны вочы нашых продкаў і нашчадкаў, ды вочы нашага гаротнага народу на Беларусі. Намі цікавіцца сьвет. Таму прасем Бога каб уваскрасіў да вечнага жыцьця ўсіх зьяднаных з Хрыстом, ўсіх тых, якія блудзяць у цемры бязбожніцтва, няверства і абыякавасьці, і за збавеньне сваіх душаў, каб стацца ўдзельнікамі радасьці веч-



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

*Высокадастойных Уладыкаў нашых*
*МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ,*
*АРХІЕПІСКАПА МІКАЛАЯ,*
*Дастойнае Сьвятарства і ўвесь Клер Царкоўны,*
*Царкоўныя Рады, Брацтвы і Сястрыцтвы,*
*Грамадзкія ўстановы, Арганізацыі Моладзі нашай,*
*Усіх вернікаў Сьв. БАПЦарквы і ўвесь Беларускі Народ*

*ВІТАЕМ З УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ.*

*ХРЫСТОС УВАСКРОС!* *ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!*

*Рада БАПЦарквы*

**ХРЫСТОС УВАСКРОС!**

У сваіх малітвах шчыра вітаем Уладыкаў нашых Высокапраасьвячэнных — Мітрапаліта Андрэя і Архіепіскапа Мікалая з нагоды 10 лецьця хіратоніі і Архіпастырскае працы для Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне.

**1968 - 1978**

Няхай Усемагутны Госпад Бог захавае Вас, дарагія Уладыкі, у добрым здароўі цьвёрдасьці й непахіснасьці на далейшую цяжкую і адказную працу для дабра нашае БАПЦарквы і Праваслаўнае Веры.

**Рада БАПЦарквы і Кансысторыя.**

нае, якую запэўняе нам Хрыстовае Уваскрасеньне.

З гэткімі нашымі разважаньнямі і думкамі ды шчырымі пажаданьнямі якнайбольшых Ласкаў Божых, вітаем Вас, улюблёныя нашыя вернікі ў Хрысьце з Вялікім Радасным Сьвятам, Уваскрасеньнем Хрыстовым — Вялікаднем! Пасылаем Вам і ўсяму нашаму Беларускаму Народу нашае Архіпастырскае дабраславенства.

Уваскрасеньня Дзень, прасьвятлімся ўрачыстасьцю, адзін аднаго абнімем і скажам — Браты — і тым, якія, ненавідзяць нас; даруем ўсё вам дзеля Сьвята Ўваскрасеньня і разам засьпяваем: „Хрыстос уваскрос із мертвых сьмерцяю сьмерць паканаў, і тым, хто у гробах, жыцьцё дараваў”.

Ласка і любоў Госпада нашага Ісуса Хрыста і лучнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі, цяпер і заўсёды і павек вякоў.

З Ласкі Божае
Пакорны ў Богу **Мітрапаліт Андрэй**
Пакорны ў Богу **Архіепіскап Мікалай**

Вялікдзень
Лета Божага 1978.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

# ХРАМ-ЦАРКВА

У Храме-Царкве мы маем ВЫШЭЙШУЮ ШКОЛУ запраўднага, дабрароднага, нязвычайна карыснага дачаснага і вечнага жыцьця. Царкоўныя песьні — гэта мілагучныя, натхнёныя, пераможныя ГІМНЫ! У іх гучыць слаўная пераможная барацьба мучанікаў, спаведнікаў, падвіжнікаў, пастыраў і вернікаў над пануючым у сьвеце злом. У іх адкрываецца сьветлы, магутны, сьвяты ідэал хрысьціянскага жыцьця. Ідэал, які натхняе і прыцягвае да сябе ўсякую душу, чулую на ўсё добрае, прыгожае, УЗВЫШАНАЕ, СЬВЯТОЕ. Гэтыя Гімны — цудоўная хрысьціянская паэзія. Голас царкоўных чытаньняў, песьняў, малітваў — гэта голас душаў нашых, які выходзіць з сьведамасьці і пачуцьця нашых духоўных патрэбаў і мэтаў. Гэта голас усяго ЧАЛАВЕЦТВА, якое ведае і адчувае сваю духовую абмежаванасьць, грахоўнасьць, сваю патрэбу ў Збавіцелі, патрэбу ўдзячнасьці й праслаўленьня бясконца добрае і дасканалае Міласьці — Любові Божае.

Цудоўныя тэмы малітвы і песьні: яны — гэта дыханьне ДУХА СЬВЯТОГА, Ягонае творчае Сілы, Любові. Нажаль, яны часта даходзяць толькі да нашых вушэй, але не пранікаюць у сьвятое-сьвятых душаў нашых. Калі-б мы былі больш уважныя ў Царкве, якімі цудоўнымі былі-б для нас усе песьні яе, і то стала, бязупынна. Бо, ці ёсьць нехта, хто быў-бы такі поўны любові, дабра, красы, мудрасьці, як Царква? Усё, што найбольш адпавядае нашай прыродзе і найбольш карыснае для нас, усё гэта знаходзіцца ў Царкве, як у скарбніцы, падобна таму, як у сьв. Евангельлі знаходзяцца СЛОВЫ ЖЫЦЬЦЯ. Але, Царква — запраўдная нашая Маці, найбольшы наш прыяцель. Яна спачувае і адказвае ўсім патрэбам душы й цела хрысьціяніна — дзейным хадатайнічаньнем прад Госпадам, здабываньнем помачы Яго.

Як прад старымі з пасівелымі валасамі мы застанаўляемся з належнаю ім пашанаю за іхны век і мудрасьць — плён высокага досьледу,так асабліва неабходна шанаваць Царкву, схіляць свае галовы прад ЯЕ СЬВЯТАСЬЦЮ й НЕПАРУШНАСЬЦЮ, прад збаўленнымі для душы Яе Запаветамі, Правіламі, Багаслужбамі, Таінствамі, Абрадамі. Дзе можна знайсьці большага і вярнейшага прыяцеля, больш чулую Маці? Царква — Божая, вялікая, сьвятая сямейка, у якой АЙЦЕЦ — БОГ, МАЦІ — ПРАСЬВЯТАЯ БАГАРОДЗІЦА, старэйшыя браты — АНГЕЛЫ і СЬВЯТЫЯ ЧАЛАВЕКІ, і мы ўсе БРАТЫ і СЁСТРЫ, з аднаго ўлоньня — ЦАРКВЫ, з аднэй купальні — ХРЫШЧЕНЬНЯ.

Якое прыгожае, прадуманае, узгадавальнае і самое ўладжаньне праваслаўнага Храму! Запраўды, у якой слаўнай грамадзе бачыць сябе хрысьціянін у Храме, маючы навокал сябе сьвв. АНГЕЛАЎ I УГОДНІКАЎ! Госпадзе! Тваім сьвятлом зьзяюць Сьвятыя Тваe, гэта Тваёю Ласкаю яны Сьвятыя, Тваёю Славаю слаўныя яны.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Вось мучанікі Твае, Тваёю Сілаю перамогшыя страшныя пакуты, у Тваёй Крыві яны выбелілі адзеньне душаў сваіх. Вось Прападобныя Твае, пастом і малітваю прыняўшыя цудоўныя дары Твае, дары аздараўленьня, прадбачаньня. Твая Сіла ўзмоцніла іх стаць вышэй грэху і ўсіх дэманскіх спакусаў. Твая ПАДОБА зьзяе ў іх як сонца. У Храме, у яго палажэньні, у Іконах, Багаслужбах з чытаньнем Сьвятога Пісаньня, сьпевам, абрадамі прадстаўлена вобразна, як на мапе, у абліччах, у асноўным уся царкоўная Гісторыя Старога і Новага Запавету, увесь Боскі Провід нашага збаўленьня. Велічны вобраз — Багаслужэньне нашае Праваслаўнае Царквы для тых, хто належна разумее ягоны зьмест, дух, сэнс, значэньне!

Стоячы ў Храме прад абліччамі вялікіх і сьвятых людзей, носьбітаў і прадстаўнікоў Праўды Жыцьця, Сьветачамі чалавецтва, хрысьціянін знаходзіцца як бы ў НЕБЕ: ён беспасярэдня далучаецца да сям'і Сьвятых. Між Небам і зямлёю няма ўжо ніякае Завесы. Малодшыя, прыродна, аддаюць пашану старэйшым, падпарадкуюцца ім, як яшчэ недасканалыя, просяць у іх малітваў за сябе прад Богам. Якая тут вялікая прычына для маральнага росту, для імкненьня да жыцьця вечнага, да чаго імкнуліся яны і асягнулі. Але, Царква надзейны шлях да Неба. Я — Праўда, Шлях і Жыцьцё, кажа Збавіцель наш (Ян. 14, 6).

Нашыя Багаслужбы — люстры запраўднага жыцьця. Празь іх нашая Праваслаўная Царква ўзгадоўвае нас на грамадзян зямных і Нябесных. Жыцьцё бурнае мора, а Царква — ціхі прыпынак, порт. У добрым порце ўсё знойдзе плавальнік, і ў Царкве ёсьць усё патрэбнае для нашага разумнага і цнатлівага жыцьця. Няхай сабе мяняюцца людзі, прыходзяць новыя пакаленьні, зьяўляюцца новыя навукі, вонкавыя прагрэсы, аднак, усё гэта не апярэдзіць Царквы, бо Яе духоўныя багацьці нявычэрпныя і вечныя. Таму неабходна стала й ахвотна, з страхам Божым наведваць Багаслужбы, асабліва-ж у сьвяточныя дні, прыймаць удзел у Таінствах Пакаяньня і Прычашчэньня, выконваць усе Правілы Царкоўныя, бо хто гэтага ня робіць, няміνуча падае ахвяраю сваіх няцнотаў. У Храме мы навучаемся вернасьці, цярплівасьці, пакоры, нязлобнасьці, паўстрыманасьці, чысьціні, ахвярнасьці, лёгкаму перамаганьню сваіх клопатаў, турботаў, смуткаў, бедаў, любові да Бога і бліжніх.

Багаслужба заўсёды ўзмацняе і ажыўляе. Яна дае нам сілы перамагаць усякія цяжкасьці. Таму горача дзякуў Добрай, Мудрай, Сьвятой Маці сваёй, Царкве Божай, якая давядзе цябе да Неба. Дзякуй Ёй за Малітвы, Багаслужбы, Таінствы, Абрады. Дзякуй Ёй за пасты дабрадзейныя для цела і душы. Праз іх я здаровы духам і целам, супакойны, бадзёры, здольны на добрыя чыны. Дзякуй чыстай Маці тваей, Царкве, якая натхняе цябе сваім Нябесным служэньнем.

(З архіву Сьв. Памяці Архіепіскапа Васіля)



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-вэрсія: Kamunikat.org 2019

# СЪВЯТОЧНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ УСЯЛЕНСКАГА ПАТРЫЯРХА ДЭМЭТРЫЁСА ДА МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ



'Αριθμ.Πρωτ.252.

'Ιερώτατε Μητροπολῖτα κύριε 'Ανδρέα, ἐν 'Αγίῳ Πνεύματι ἀγαπητέ ἀδελφέ καί συλλειτουργέ τῆς ἡμῶν Μετριότητος, χάρις εἴη τῇ ὑμετέρᾳ 'Ιερότητι καί εἰρήνη παρά Θεοῦ.

'Ασμένως ἐδεξάμεθα τάς ἐπί τῇ ἁγίᾳ καί λαμπροφόρῳ ἑορτῇ τῆς ἐκ νεκρῶν ἐνδόξου 'Αναστάσεως τοῦ Σωτῆρος ἡμῶν Χριστοῦ συγχαρητηρίους προσρήσεις καί εὐχάς τῆς ὑμετέρας ἀγαπητῆς 'Ιερότητος, καί θερμῶς ἐπ'αὐταῖς εὐχαριστοῦμεν.

"'Αληθῶς 'Ανέστη".'Αντευχόμεθα μετ'ἀγάπης ὅπως ὁ ἐκ τοῦ Τάφου ἐνδόξως 'Εγερθείς καί τό κράτος τοῦ θανάτου καταλύσας Κύριος ἡμῶν καί Σωτήρ δωρῆται πλουσίαν τήν εὐλογίαν καί τήν χαράν τῆς 'Αγίας Αὐτοῦ 'Αναστάσεως μετά πάσης ἀγαθωσύνης τῇ ὑμετέρᾳ φίλῃ 'Ιερότητι καί παντί τῷ ἀγαπητῷ ἡμῖν ποιμνίῳ αὐτῆς, κατευοδῶν αἰσίως καί πάντα τά καθ'ὑμᾶς, εἰς ἐπάνθησιν καί καρποφορίαν ἐν παντί ἔργῳ ἀγαθῷ.

Αὐτοῦ ἡ χάρις καί τό ἄπειρον ἔλεος εἴη μετά τῆς ὑμετέρας 'Ιερότητος.

"Αγιον Πάσχα 1977

ἀγαπητὸς ἐν Χριστῷ ἀδελφός

Іншыя прывітаньні:

**Ад Ніколаоса, Патрыярха Александрыйскага;**
**Ад Бэнэдыктоса, Патрыярха Ерусалімскага;**
**Ад Архіепіскапа Яковоса, Экзарха Канстантынопальскае Патрыярхіі на Амэрыку;**
**Ад Мітрапаліта Мсьціслава, Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы;**
**Ад Васіліёса, Мітрапаліта Кесарыі;**
**Ад Дымітрыя, Епіскапа Сэрбскае Праваслаўнае Царквы на Аўстралію і Новую Зэляндыю.**



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-вэрсія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## ГРЭЦКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА (ЭЛАДЗКАЯ)

Да 1821 году Грэцкая Праваслаўная Царква ўваходзіла ў склад Канстантынопальскае Патрыярхіі. Калі-ж у 1821 годзе выбухла паўстаньне супраць турак, грэцкае духавенства спыніла зносіны з Патрыярхіяй, і ўпоўні далучылася да змаганьня за нацыянальную свабоду, не выракаючыся свае залежнасьці ад Патрыярха. За часоў кіравецтва Грэцыяй Каподыстрыя (1827 г.) было выбрана царкоўнае кіравецтва, у склад якога ўваходзіла пяць епіскапаў, якім было даручана кіравецтва царкоўнымі справамі. Але пасьля сьмерці Каподыстрыя дзейнасьць кіравецтва была спыненая, і толькі ў 1830 годзе, калі прастол грэцкі заняў Фрыдрых Оттон Баварскі, у сувязі з ягоным непаўналецьцем, для вырашэньня царкоўных спраў была арганізаваная камісія з сямі асобаў начале з дзяржаўным міністрам. Выбраная камісія апрацавала праект, згодна якога Грэцкая Царква падлягала каралю, і сталася зусім незалежнаю ад Патрыярха. Сабор у ліку 22-х Епіскапаў гэты праект апрабаваў. Але дзеля таго, што ў аснову праекта быў узяты пратэстанцкі пачатак, і большую частку царкоўнага кіравецтва ўзяла сабе каралеўская ўлада, мясцовы сьвячэнны Сынод уважаў за немагчымае поўную залежнасьць ад сьвецкае ўлады, і Сынод распачаў захады перад каралеўскаю ўладаю за перагляд некаторых пунктаў кананічных правілаў і праекту пастановы Сабору.

Улада не пагадзілася на перагляд. У міжчасе і сярод грамадзтва пашырылася незадаваленьне тым, што незалежнасьць Царквы ад Канстантынопальскага Патрыярха абвешчана бяз згоды Патрыярха, і што найвышэйшая ўлада над Царквою, насуперак канонам, аддадзена сьвецкай уладзе, гэта значыць каралю.

Пасьля рэвалюцыі 1843 году Грэцыя прыняла канстытуцыйную сыстэму кіраваньня дзяржаваю; пытаньне царкоўнага кіравецтва было нанова ўзьнятае, і распачалася перапіска з Канстантынопальскім Патрыярхам за прызнаньне Грэцкае Царквы. У 1850 годзе з ініцыятывы Патрыярха быў скліканы Сабор, які пастанавіў лічыць Грэцкую Царкву незалежнай, і за яе вышэйшую ўладу быў прызнаны Сынод з Архірэяў; калі-ж царкоўныя справы вымагалі-б супольнага разгляду дзеля палепшаньня ўстрою праваслаўнае царквы, то Грэцкі Сьвячэнны Сынод павінен зварачацца да Ўсяленскага Патрыярха.

Пасьля прызнаньня за згодаю Патрыярха незалежнасьці Грэцкае Царквы, у 1852 годзе быў выданы закон аб упарадкаваньні царкоўнага кіравецтва ў Грэцыі, паводля якога вышэйшым кіравецтвам становіцца Сьвячэнны Сынод Царквы Эладзкай, які складаецца з пяцёх асобаў. Галавою Сыноду пастаўлены Мітрапаліт Атэнскі. Але Сынод, ня кажучы ўжо пра справы замежныя, але і ў нутраных ня меў поўнае самастойнасьці, бо кожная пастанова павінна была падлягаць перагляду і подпісу каралеўскага міні-



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ СЬВЯТЫНІ Ў СТАРАЖЫТНАЙ ВІЛЬНІ

За часоў Вялікага Княства Літоўскага Вільня была найбольшым праваслаўным цэнтрам Беларускага Народу. Першая праваслаўная царква ў Вільні была пабудаваная ў часе княжаньня Вялікага князя Гедыміна (1316-1341 г.г.)

Першая жонка князя Альгерда, Марыя, княгіня Віцебская, пабудавала прыгожую **Пятніцкую Царкву,** якая мае слаўную гісторыю і становіць паважную памятку з часоў магутнасьці Вялікага Княства Літоўскага. Перажываючы розныя гістарычныя падзеі, Пятніцкая Царква ў часе польскае акупацыі Заходняе Беларусі (1920-1939 г.г.) была гімназіяльнай царквой, дзе ўзгадоўваліся многія беларускія дзеячы.

Пятніцкая Царква знайходзіцца пры сяродку Вялікае вуліцы. Недалёка ад Пятніцкай Царквы другая старадаўная Беларуская сьвятыня — **Мікалаеўская Царква**, якую пабудавала другая жонка Альгерда, княгіня Юльяна Цьверская.

Таксама старадаўная **Траецкая Царква.**

---

стра, бяз подпісу якога пастанова не магла быць правамоцнаю. У такім выпадку галоўным распарадчыкам быў ня Сынод, а каралеўскі міністар. Падпарадкаваньне царквы дзяржаве наглядалася амаль ува ўсіх законах Грэцыі. Епіскапаў зацьвярджаў кароль, і яны павінны былі прысягаць на вернасьць канстытуцыі, у дзейнасьці пастырскай таксама было абмежаньне сьвецкаю ўладаю.

Паводля закону з 1852 году Грэцыя была разьдзеленая на 24 Епархіі, з якіх Атэнская лічылася Мітраполіяй. Пасьля-ж далучэньня да Грэцыі абтокаў — Іонійскага Фесаліі і часткі Эпіру — лік епархіяў узрос да 32. Межы епархіяў супадалі з падзелам дзяржаўным.

Царкоўнай рэформе падлягалі й манастыры. Пастановаю ўраду былі зачынены бязьдзейныя манастыры, таксама і тыя, дзе была невялікая колькасьць манахаў, якія былі разьмешчаны па іншых манастырох. Маемасьць зачыненых манастыроў была канфіскавана і перайшла ў народны скарб.

Для духоўнае асьветы на абтоку Парос была адчынена ў 1930 годзе багаслоўская школа; у 1837 годзе адчынены багаслоўскі факультэт пры Атэнскім універсытэце, духоўная сэмінарыя ў Атэнах. Апрача школаў рэлігійнага ўзгадаваньня існавалі рэлігійныя брацтвы.

У XIX ст. пасьля звальненьня краю ад туркаў, шмат клопату спрычынілі каталікі і пратэстанты, якія дзеялі праз адчыненыя іхныя школы ды праз мясцовых герэтыкаў, фанатыкаў і лібералаў, што вельмі адмоўна адбілася ў навуцы праваслаўнае царквы. На гэта зьвярнуў рупную ўвагу Сынод Грэцкае Царквы, уважаючы ўплыў чужое навукі шкадлівым, і было учынена супроцьдзеяньне.

(Паводля Праваслаўна-Багаслоўск. Энцыкляпэд. Слоўніка, том I.).



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

За часаў Альгерда быў пабудаваны **Прачысьценскі Сабор** на беразе рэчкі Вілейкі. Гэта гістарычная рэлігійная памятка Беларускага народу. Калі была заснаваная Мітраполія начале з Мітрапалітам Раманам, ён стаўся Мітрапалітальным Саборам.

Да 1596 году, калі праваслаўныя Епіскапы начале з Мітрапалітам Рагозам перайшлі ў вунію, у Вільні было ня менш як 14 цэркваў, а за часоў вуніі для праваслаўных была пакінута толькі адна — **Царква Сьвятога Духа.**

Да найбольш шанаваных іконаў у Вільні належыць **Вострабрамская Ікона Божае Маці.** Пра паходжаньне яе існуе некалькі пераказаў. Згодна аднаго, быццам князь Альгерд прывёз яе з Корсуня; згодна другога — Ікону прыслаў грэцкі імпэратар Ян Палеалёг, і згодна трэйцяга — яна цудоўна зьявілася на Вострай Браме 14-га красавіка 1431 году.

У 1498 годзе, у часе будаваньня мураваных сьценаў у месьце, Ікона была зьмешчана на Вострай Браме, ад чаго і атрымаўся назоў — Вострабрамская. У 1609 годзе Ікону захапілі вуніяты. У 1624 годзе пры самай Браме быў заснаваны Кармэліцкі манастыр і касьцёл сьв. Тэрэзы. Кармэліты паставілі новую капліцу, зьмясьцілі там Ікону, абярнуўшы абліччам да касьцёлу. Пасьля пажару ў Вільні Ікона была перанесена ў манастыр сьв. Тэрэзы, а ў 1744 г. зноў зьмешчана над Брамай.

У 19-м ст. за Ікону паўстала спрэчка між Базыльянамі і Кармэлітамі, і Папа прысудзіў Ікону Кармэлітам.

У 1812 годзе, пры наступе Французаў, Ікона была часткава пашкоджана, і калі ў 1829 годзе зьнялі зь Іконы рызы для направы, на Іконе заўважылі напісаны славянскімі літарамі хвалебны гімн Багародзіцы — „Часьнейшую Херувім". Ікона напісана на дубовай дошцы памерам два з палавінаю на 2 аршыны. На Іконе адлюстраваны вобраз Прасьвятой Дзевы ў часе Дабравешчаньня. Абкладзена Ікона пазалочанаю рызаю і двуяруснай каронай з прамяністым зьзяньнем. Ікона карыстаецца вялікаю пашанаю як сярод праваслаўных, так і каталікоў. Сьвяткаваньне адбываецца 25-га сакавіка, 14 красавіка і 25 сьнежня.

**Віленская цудадзейная Ікона Божае Маці Одыгітрыя** (Дарогапаказьніца), якую, паводля старадаўнага паданьня, напісаў Евангеліст Лукаш. Ікону прывязла ў Вільню Алена, дачка князя Івана-маскоўскага, жонка Вялікага князя Літоўскага Аляксандра. Паводля аднаго пераказу, Ікона была сьвятасьцю Візантыйскіх імпэратараў, і была прысланая ў падарунак Галіцыйскім князём; паводля другога — Ікону прывязла ў Маскву Соф'я Палеалёг у часе шлюбу з Іванам Трэйцім. У 1748 годзе, пасьля пажару ў Вільні, Ікона з Прачысьценскай Царквы перанесена ў Траецкую Царкву, пры якой быў манастыр і духоўная сэмінарыя. У 18-м ст. Ікона ўпрыгожана сярэбранымі пласьцінкамі, што прыдало Іконе асаблі-



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## СЬВ. КІРЫЛА ТУРАЎСКІ

**(Хіратанізаваны на Епіскапа ў 1169 г. Памёр у 1189 годзе).**

Нашая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, асабліва Парафіі, якія носяць імя Сьвятога Кірылы Тураўскага, урачыста сьвяткуюць дзень свайго Патрона, які прыпадае на дзень 11-га травеня подля новага стылю. У нас маюцца толькі кароткія весткі з ягонага жыцьця і дзейнасьці, хоць ён пакінуў па сабе вялікую спадчыну яго твораў. Сьв. Кірыла нарадзіўся, прыпушчальна, ў 1114 годзе ў месьце Тураве, на Меншчыне. Ён быў сынам багатых бацькоў і з малых гадоў прыкладаўся да чытаньня. Навучыўся грэцкае мовы і чытаў грэцкія кнігі. Вырасшы, ён пастрыгся ў манахі ў Барысаглебаўскім манастыры ў сваім горадзе. Пасьля некалькіх гадоў манаскага жыцьця ён пабудаваў сабе вежу, дзе ў адзіноцтве шчыра маліўся і займаўся чытаньнем сабранай літаратуры, у першую чаргу твораў Сьв. Айцоў, як таксама і твораў сьвецкае літаратуры. Такім чынам, ён стаўся высокаадукаваным чалавекам таго часу і вялікім прапаведнікам Слова Божага, захапляючы людзей сваім красамоўствам.

---

вую прыгажосьць. Ікона чатырохскладовая, напісана на чатырох дошчачках; памер яе адзін і ¾ арш. на 1 аршын.

**Віленскі Сьвятатраецкі Манастыр.** Заснаваў яго князь Альгерд. У 1514 годзе царква пры манастыры была рэстаўраваная за князя Канстантына Астрожскага. З манастырскае школы выйшлі такія слынныя Герархі, як: Сьвячэннамучанік Мітрапаліт Макары, якому татары адсеклі галаву, Йона II-гі, Мітрапаліт Сыльвэстар Бялькевіч ды іншыя. Сьвятатраецкае Брацтва пры манастыры было заснавана ў 1609-м годзе. З ігуменаў манастыра асабліва адзначыўся Сьцяпан Зізані — аўтар Малога Катэхізісу.

**Віленскі Сьвятадухаў Манастыр,** заснаваны каля 1597-га году. Напачатку быў дрыўляны; пасьля 1640 г. перабудаваны на мураваны. У манастыры месьцілася Сьвятадухаўскае Брацтва. Кіраўнічым манастыра праз некаторы час быў Мялеці Сматрыцкі, які заснаваў пры Брацтве школу, напісаў граматыку. У часы вунійныя Брацтва ня толькі кіравала справамі рэлігійнымі, але займалася і справамі палітычнымі. Брацтва атрымала права „стаўрапігіі", гэта значыць, што яго дзеяньне не падлягала мясцовай Герархіі, а непасрэдна Патрыярху.

У 14-м ст. у манастыр былі перанесены мошчы сьвятых мучанікаў — Антона, Яна і Еўстафа — і зьмешчаны ў манастырскім склепе, які быў ператвораны ў пячорную царкву.

**Віленскі Марыінскі Манастыр** — жаночы, заснаваны ў 1864 годзе. Агульнажыльлёвы. Знайходзіцца у самым месьце. Да штатных ня быў залічаны. У манастыры была адна царква.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Сьв. Кірыла ня толькі перадаваў сваім пабожным слухачом Евангельскія вяшчаньні, але прымушаў пераживаць іх разам з сабою. Сваімі палымянымі, прыгожымі словамі ён уміляў і ўзьнімаў душы сваіх вернікаў угару, да Бога. Пабудову сказаў і хараство іхнае апрацоўкі ў творах Сьв. Кірылы Тураўскага многія літаратурныя спэцыялісты прыраўноўваюць да мазаічных абразкоў візантыйскага стылю. Параўнаньні, супрацьстаўленьні, пытаньні, звароты, усклікі, мэтафары разам з драматызмам выкладу, з алегорыямі, з шматгранным чаргаваньнем, робяць кожнае „Слова" Сьв. Кірылы, як бліскучы твор.

Асаблівым сымбалізмам адзначаліся творы Сьв. Кірылы, дзе выяўлялася сувязь прыроды з душою чалавека.

Вось выемкі з твораў Сьв. Кірылы:

„Сёньня нябёсы прасьвятлелі, скінуўшы з сябе халодныя, цёмныя хмары, і пахучым, сьветлым ветрыкам пяюць хвалу Госпаду. Сёньня сонейка вышэй падымаецца, радуецца і зямельку ацяпляе, а месяц ужо аддае гонар большаму сьвяцілу. Сёньня вясна красуе, песьціць, ажыўляе зямлю, лёгкі ветрык разносіць насеньне, а яно родзіць мілую зялёную траўку. Сёньня цяляткі й ягняткі лёгка і борзда скачуць, вясёлыя вяртаюцца да мацярок сваіх, радуюцца. Пастыры-ж звонка й плаўна граючы на жалейках сваіх, радасна славяць Праўду жыцьця — Хрыста. Сёньня дрэвы лісточкамі пакрываюцца, кветкі красуюць, пышацца, сады далёка пашыраюць цудоўны арамат свой. І тружанікі, працуючы з надзеяй, славяць Праўду добрых пладоў-Хрыста. Сёньня ратаі слова (духаўнікі) прыводзяць славесных ягнятак сваіх да духоўнага ярма, праводзяць ралом Крыжа баразну Пакаяньня, і сеючы духоўнае насеньне, вясяляцца надзеяй на будучыя плады свае. Сёньня ўсе мілагалосыя птушкі царкоўных хораў весяляцца".

Або: „Храм гэта зямное прабываньне Бога, гэта Ноеў Каўчэг, у якім верныя спасаюцца. Прыгаство Каўчэга было ў нутры яго, у вернасьці Богу Ноя і ўсяе сям'і яго, так і нашае прыгаство ўнутры нас, у нашай душы. Алтар нашых храмаў ставіцца на Ўсход, дзе ўсходзіць Сонца-Спасіцель наш. Апора, стоўп нашае душы, гэта Ласка Божая і Дапамога. Нашая храміна людзкая — душа — абнесеная моцнаю сьцяною, нашаю Bepaю і страхам Божым ды малітваю, а сторажам яе ёсьць наш розум, прасьветлены Духам Сьвятым.

У зборніку Імпэратарскай Акадэміі Навук (т. 85, С.-Петербург, 1908), між іншага, напісана: „Да ліку самых выдатных помнікаў літаратуры XII ст. належаць творы сьв. Кірылы Тураўскага. Значэньне іх было вялікае ня толькі ў XII ст., але й напрацягу XVIII-XIX ст. Якое вялікае значэньне мелі гэтыя творы для сучасьнікаў сьв. Кірылы, мы бачым з таго, што яны ўсьцяж перапісваліся і пашыраліся ў сотнях і тысячах прымернікаў, і гэта прадаўжалася



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

некалькі стагодзьдзяў, і чыталіся яны часта ўсенародна і ўрачыста" (бал. 273-274). „Пашыраліся яны ў манускрыптах. Нажаль, гэтых манускрыптаў было мала, датаго-ж яны часта траціліся або затрымоўваліся паасобнымі людзьмі, як дарагі скарб, для свайго толькі карыстаньня. Таму Мітрапаліт Пётра Магіла († 1646) скардзіцца, што вельмі мала ёсьць надрукаваных твораў Кіпрыяна, Грыгора Цамблака, асабліва-ж такога вялікага вучыцеля нашага, як сьв. Кірыла Тураўскі" (бал. 337).

У зборніку, што выйшаў у 1647 г. у Маскве, былі надрукаваныя пяць „Словаў" сьв. Кірылы Тураўскага: 1. У сераду 5-е Нядзелі Вялікага Посту; 2. На Вербніцу; 3. На Нядзелю 3-ю па Вялікадні; 4. На Ўзьнясеньне і 5. Аб Першым Усяленскім Саборы 318-ці Айцоў.

У 1797 годзе Супрасьлеўская друкарня выдала кнігу „Златавусны", у якой былі зьмешчаныя творы сьв. Кірылы: 1. Аб страху Божым; 2. Аб пахаваньні Ісуса Хрыста і Плачы Прасьвятое Багародзіцы; 3. На Нядзелю Фамы; 4. Аб Расслабленым; 5. На Нядзелю 20-ую, або Слова аб Нябесных Сілах і для чаго створаны чалавек на зямлі.

„Русскій Біографіческўй Словарь" успамінае пра вялікі твор — кнігу сьв. Кірылы, якая ў свой час была пашыраная супраць гэрэзіі „Феодара епіскапа". Там-жа ўспамінаецца, што ў навуковай літаратуры ёсьць каля 70-ці працаў, якія складаюцца з Павучальных Пасланьняў да Андрэя Багалюбскага, Маральных трактатаў да манахаў, Малітваў і павучальных Словаў на Нядзелі і Сьвяты.

Бязумоўна, тут пададзена толькі частка прац. сьв. Кірылы Тураўскага, якія нам недаступныя, ды невядома ці яны захоўваюцца.

Сьвятая нашая Царква ўсячасна моліцца да свайго апякуна Сьв. Кірылы Тураўскага, угодніка Божага, каб ён заступіўся за нас грэшных прад Пасадам Усявышняга, Госпада нашага Ісуса Хрыста.

(З рукапісу сьв. Памяці Архіепіскапа Васіля і з яго пісьмовых працаў у № 2,3,4 „Голасу Царквы").

---

## КАРПАТА-РУСКАЯ ЦАРКВА У ЗША

Пасьля сьмерці Мітрапаліта Карпатарускае Праваслаўнае Царквы Орэстаса П. Чэрнака выбраны Епіскап Ян Р. Марцін. Епіскап Ян, сын Яна і Веранікі, Марцін нарадзіўся ў Пітсбургу. Пасьвячаньне ў сан Ерэя атрымаў ў 1955 годзе. Аб выбарах павядомлена Усяленскага Патрыярха Канстантынопальскага Дымітрыоса.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

# СПРАВА СТАЛАЕ ДАТЫ СЬВЯТА ВЯЛІКАДНЯ

Пытаньне нязьменнага і сталага часу сьвяткаваньня Вялікадня першым закрануў Усяленскі Патрыярх Атэнагорас І-шы ў часе спатканьня з Папам Паўлам VI-ым. Цяпер ініцыятыву для правядзеньня ў жыцьцё гэтае справы ўзяў Сакратарыят Усясьветнай Рады Цэркваў і ўнёс гэтае пытаньне на парадак дня пятае Асамблеі Рады.

Ужо 20 травеня 1975 году генэральны Сакратар УРЦэркваў Д-р Ф. Поттэр разаслаў да Першагерархаў Памесных Праваслаўных Цэркваў абежнікі, у якіх інфармаваў, што напрацягу апошніх колькіх год Рада Ўсясьветных Цэркваў правяла дасьледваньне і выявіла, што бальшыня сяброў Рады пагаджаецца ўстанавіць супольную дату сьвяткаваньня для ўсіх хрысьціян, і гэткім днём была-б нядзеля пасьля другое сыботы месяца красавіка, і што Рымская Царква робіць ужо падрыхтоўку для ўвядзеньня гэтае даты ў 1977 годзе ў сваёй Царкве. На заканчэньне ў абежніку яшчэ было зазначана: „Калі Вашая Царква ня можа прыняць даты сьвяткаваньня, то ці даеце згоду, каб большасьць цэркваў прыняла гэтую дату?

Два дні раней перад высылкаю абежніка д-ра Поттэра, 18 травеня 1975 году, каталіцкі Кардынал Я. Віллебрандт, які кіруе сакратарыятам хрысьціянскае еднасьці, таксама зьвярнуўся ў тэй справе да Першагерархаў Памесных Праваслаўных Цэркваў, да кожнага з асобным лістом, у якім прыпамінаў, што — „ад пачатку існаваньня Хрыстовае Царквы найважнейшаю справаю ёсьць, каб усе хрысьціяне адзначалі Вялікдзень у адным часе”.

Першым адгукнуўся на зварот кардынала Віллебрандта і д-ра Поттэра Першагерарх Польскае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы Мітрапаліт Васіль, які 8 чырвеня 1975 г. выслаў адказ д-ру Поттэру наступнага зьместу:

„Ад Імя Польскае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы паведамляю: 1. Прапанова ўстанаўленьня супольнага тэрміну сьвяткаваньня Пасхі ў нашых абставінах не на часе. Цэрквы Ўсходу і Захаду маюць глыбокія традыцыі адносна сьвяткаваньня Вялікадня.

Надта пасьпешлівае разьвязаньне гэтае праблемы, на нашую думку, можа выклікаць клопаты ў навядзеньні мастоў паміж гэтымі Цэрквамі. 2. Справа ўстанаўленьня новае даты сьвяткаваньня Пасхі ёсьць залежная ад Усяленскага Праваслаўнага Сабору і старых нехалкедонскіх Цэркваў.*

Таму ўважаем, што не належыць ставіць у праграму нарадаў у Найробі (гэта значыць — на 5-ай Асамблеі Усясьветнай Рады Цэркваў — рэд.) прапановы супольнага тэрміну сьвяткаваньня Пасхі, і не даем згоды, каб бальшыня цэркваў акцэптавала гэтую прапанову.

Падобны адказ Мітрапаліт Васіль паслаў і Кардыналу Віллебрандту, у якім, між іншага, пісаў:

„Сьв. Сабор Епіскапаў Польскай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы на сваім паседжаньні не апрабаваў Вашага праекту. На думку Сьв. Сабору, праект можа яшчэ больш паглыбіць падзел Царквы, бо цэлая нашая Царква ня прыйме даты вызначэньня Пасхі ў нядзелю пасьля другое сыботы красавіка”.

Іншыя праваслаўныя цэрквы таксама паставіліся адмоўна.

---

* На Саборы ў Халкедоне, у 451-м годзе, быў выпрацаваны Сымбаль Веры, прыняты ў каталіцкай і пратэстанцкіх цэрквах. —



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Першым пасьля Мітрапаліта Васіля, 10 чырвеня выслаў адказ Усясьветнай Радзе Цэркваў Патрыярх Сэрбскі Гэрман, які закончыў свой адказ гэтак: „З пагляду на тое, што Сэрбская Праваслаўная Царква, якая становіць частку Ўсходніх Праваслаўных Цэркваў, прызнае дату сьвяткаваньня Пасхі згодна канонаў Першага Ўсяленскага Сабору ў 325 годзе, асьветчваем, што зьмена даты можа быць учынена толькі на Саборы ўсіх нашых Праваслаўных Цэркваў. Да таго часу Сэрбская Праваслаўная Царква застаецца верная традыцыйнай даце Вялікадня".

Ня менш рашучае становішча заняла і Грэцкая (Элладская) Царква, Першагерарх якое Архіепіскап Сэрафім паведаміў Усясьветнай Радзе Цэркваў:

„Маем Ваш ліст з 20-га травеня 1975 г., у якім ёсьць пытаньні, ці даём згоду на вызначэньне сьвяткаваньня Вялікадня паводля новае даты і ці маем якія засьцярогі, каб гэтая праблема разглядалася на 5-ай Генэральнай Асамблеі Рады? У адказе дазволім сабе паведаміць, што Сьвячэнны Сынод нашае Царквы пастанавіў не распачынаць ніякае дыскусіі ў гэтай справе да таго часу, пакуль гэтая справа ня будзе разгледжана на Ўсяленскім Праваслаўным Саборы і аднагалосна на тым Саборы пастаноўлена, чаго вымагаюць Сьв. Праваслаўныя Каноны. Ёсьць зразумелым, што прысьпешаная пастанова такой прапановы выкліча толькі перашкоды ў нашых будучых узаемадачыненьнях з Усяленскаю Царкоўнаю Радаю.

Падобнае становішча заняў Першагерарх аўтаномнай Праваслаўнай Царквы на Сінайскай Гары Архіепіскап Дзямян і Архіепіскап Праваслаўнае Царквы на Кіпры Мітрапаліт Макары (ужо адыйшоў у вечнасьць).

Становішча Маскоўскай Патрыярхіі крыху высьвятляецца з пісьма Патрыярха Пімена да Варшаўскага Мітрапаліта Васіля. Пімен пісаў:

„Пасьля дакладнага разгляду тэй справы Сьв. Сынод Расейскае Праваслаўнае Царквы пастанавіў, што зьмена даты сьвяткаваньня Ўваскрасеньня Хрыстовага для Маскоўскае Патрыярхіі магчыма толькі пасьля агульнага праваслаўнага разгляду. Нашая Царква не пярэчыць супроць прыняцьця іншымі хрысьціянскімі цэрквамі нядзелі, што прыходзіць пасьля другое сыботы красавіка, калі гэта станецца; і Сынод нашае Царквы ня ставіць супраціву, калі на паседжаньні пятае Асамблеі ў Найробі будзе разглядацца гэтае пытаньне".

Усяленскі Патрыярх Дымітры, дзякуючы Варшаўскаму Мітрапаліту Васілю за яго ліст і за копіі перасланых лістоў да УРЦэркваў і Ватыкану, паведаміў, што Ён поўнасьцю пагаджаецца з зьместам тых лістоў, і дадае: „Маючы гэта на ўвазе, сумляваемся, што некаторыя з нашых Праваслаўных Цэркваў выступалі-б на 5 Асамблеі нязгодна з Вашымі лістамі. Разам з Сьв. Саборам уважаем, што прадстаўнікі Цэркваў на Асамблеі выкажуцца так, што справа сьвяткаваньня Вялікадня будзе разглядацца на прышлым Усяленскім Саборы.

Аднак з увагі на тое, што ўсе памесныя Праваслаўныя Цэрквы занялі становішча супраць уводжаньня новае даты сьвята Вялікадня, пытаньне гэтае ня было стаўлянае на Асамблеі Усясьветнай Рады Цэркваў у Найробі.

Варочаючыся да справы супольнага сьвяткаваньня Вялікадня, трэба прызнаць, што большыня праваслаўных памесных Цэркваў ня супроць перагляду каляндарнае сыстэмы, і ўсе аднагодны ў тым, што аўтарытэтна разьвязаць гэтую праблему можа толькі Ўсяленскі Сабор.

(Паводля „ВІДОМОСТІ" № 2(216) за красавік 1977 г.)



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## ЗЬМЕНЫ У КІРАВЕЦТВЕ ПРАВАСЛАЎНЫХ ЦЭРКВАЎ

**Новы Першагерарх Праваслаўнае Царквы на Востраве Кіпры.** На месца памершага ў жнівені мінулага году Архіепіскапа Макарыоса быў выбраны Мітрапаліт Пафскі Хрызастом. Новы Архіепіскап нарадзіўся ў заходняй частцы Кіпру ў 1927 годзе і быў пасьвячаны ў сан Ерея ў 1961 годзе. Тэалягічную асьвету атрымаў у Атэнах, у Грэцыі. Хіратонія на Епіскапа адбылася ў 1965 годзе, пасьля чаго ён стаўся пэрсанальным дарадчыкам Архіепіскапа Макарыоса.

**Праваслаўная Царква ў Амэрыцы.**

Як ведама, з 25 па 28 кастрычніка мінулага году ў г. Монтрэалі ў Канадзе адбыўся Пяты Сабор Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы, на якім, пасьля адыходу на супачынак па старасьці Мітрапаліта Ірынея, быў выбраны на Мітрапаліта Епіскап Феадосі. Мітрапаліт Феадосі нарадзіўся 27 кастрычніка ў 1933 годзе ў Канэнсбургу, Пэнсыльванія, ад бацькоў Яна і Марыі Лазар, якія прыбылі ў ЗША з Галіцыі — Украіны. Мітрапаліт скончыў у 1957 годзе Вашынгтонскі Джэфэрсонаўскі Каледж і уступіў у Сьв. Уладзімерскую Сэмінарыю, якую скончыў у 1960 годзе. Пасьля гэтага ў Швэйцарыі вучыўся ў Жэнеўскім Экуменічным Інстытуце. 10 сакавіка 1961 году ён прыняў манаскі пастрыг з імём Феадосі, а ў кастрычніку гэтага-ж году пасьвячаны ў дыякана і Іераманаха. Епіскапская хіратонія адбылася 6 травеня 1967 году.

У Праваслаўнай Царкве ў Амэрыцы, якую ачоліў Мітрапаліт Феадосі, больш за 80 працэнтаў парафіянаў паходзяць з этнаграфічнае тэрыторыі Беларусі.

### ЗАГРОЗА ДЛЯ УСЯЛЕНСКАЙ ПАТРЫЯРХІІ

З прэсавай інфармацыі вынікае, што Канстантынопальская Патрыярхія мае прычыны непакоіцца за сваё існаваньне. У часе леташніх выбараў у Парлямэнт па усей Турцыі адбываліся маніфэстацыі пад лёзунгам, што для Турцыі павінен быць толькі іслам, і ніякіх іншых рэлігій. У Істамбуле (Канстантынопалі) адбыліся дэманстрацыі „Істамбульскага Студэнцкага Саюзу", якраз насупраць Патрыярхіі, з напісамі на плякатах: „Прэч Патрыярхію" і „Зачыніць гняздо здрады Турцыі".

Як падае Украінскі часапіс „Вісник" (№ 4, з 15-га лютага 1978 г.), у афіцыйным воргане Грэцкае Праваслаўнае Царквы пададзена, што некалькім Мітрапалітам з Усяленскай Патрыярхіі турэцкі урад адмовіў выдаць пашпарты на выезд з Турэччыны.

Ня так даўно на выезд было забаронена Мітрапаліту Максіму, дэкану Багаслоўскай школы ў Халкі. Ён меў замер выехаць з Турцыі да Атэнаў на паховіны свае маці. Ужо трэйці раз адмоўлена выдаць візу для Мітрапаліта Мэлітона Халкедонскага — Яго ўважаюць за наступніка сучаснага Патрыярха. Таксама абмежана права падарожнічаць Мітрапаліту Халдзейскаму; Мітрапаліту Бартломею Філядэльфійскаму, дырэктару канцыляры Ўсяленскага Патрыярха і канцлеру Патрыярхіі Мітрапаліту Якіму.

У гэтай справе створана спэцыяльная камісія Патрыярхіі, якая маецца паехаць да Анкары й высьніць справу турэцкаму ураду.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## ШЧЫРАСЬЦЬ СЛУЖЭНЬНЯ

Я Пастыр добры: добры пастыр душу сваю кладзе за авец"... (Ев. Яна, 10-11). Гэта словы самога Хрыста, і яны ў вялікай меры могуць быць прыложаныя да сьвятарскай дзейнасьці а. Яна Пякарскага — сьвятара БАПЦарквы ў Англіі. Айцец Ян, маючы пакліканьне да сьвятарскай дзейнасьці, добра разумеў і адчуваў паважнасьць пастырскага абавязку, а таму старанна да гэтага рыхтаваўся. Дзеля гэтага яшчэ перад пасьвячэньнем у дыяканы і ерэі ў адным з пакояў свайго дому ўладзіў капліцу, дзе і праводзіў практыкаваньне багаслужбаў. Гэткі спосаб значна дапамог яму напачатку пастырскае дзейнасьці, бо адразу пасьля пастаўленьня ў ерэі на першай Архірэйскай Багаслужбе паказаў сябе дастойным сьвятарскага сану.

Паходзіць а. Ян Пякарскі з вёскі Сурынка, Слонімскага павету, дзе быў настаяцелем у царкве адраджэнец БАПЦарквы Сьв. памяці Пратаерэй Хведар Данілюк, які, згодна слоў самога а. Пякарскага, уліў у душу яго, юнага хлапца, рэлігійнае пачуцьцё.

Прыняўшы духоўны сан, а. Ян адразу пачаў арганізацыйную працу ў наладжаньні рэлігійна-беларускага жыцьця на паўдні Англіі, і пачаў абслугоўваць вернікаў-беларусаў у Лёндане, Кэмбрыджы, Бірмінгаме і Вульвэргамптоне.

Месцам жыхарства і працы ў Англіі брату Пякарскаму было лёсам прадзначана выбраць ваколіцы ведамага гістарычнага культурна-палітычнага асяродку — места Кэмбрыджу з славутым гістарычным унівэрсытэтам.

У арганізацыйнай дзейнасьці а. Ян выказаў вельмі добрыя здольнасьці. Адразу ўсталіў знаёмства і супрацоўніцтва з сьвятарамі розных нацыянальнасьцяў і прыймаў удзел у супольных багаслужбах з імі. Гэта спрыяла яму ў здабыцьці прыхільнасьці да яго сьвятарства, і ўжо на другім годзе свае пастырскае дзейнасьці быў прыняты на аўдыенцыю з Экзархам Усяленскага Патрыярха ў Лёндане Атэнагорасам II, дзе даваў інфармацыі пра БАПЦаркву на эміграцыі.

Выказалі паважнае зацікаўленьне ягонаю дзейнасьцяй і мясвовыя рэлігійныя і сьвецкія ўлады акругі Бэрт'с, і з дазволу мясцовага Епіскапа яму для багаслужбаў была адпушчана для бясплатнага карыстаньня Англіканская царква, у якой а. Ян пабудаваў іканастас.

Прозьвішча а. Яна і адрыс Царквы ўпісаны ў рэгістрацыйную кнігу Stevenage Hand Book на 1977-78 год — выданьне гарадзкое управы, дзе зьмешчаны адрасы ўсіх сьвятароў, кіраўнікоў рэлігійных, дабрачынных і іншых установаў. І гэта сьветчыць пра паважнае трактаваньне БАПЦарквы.

Дзякуючы яго ўмелай і стараннай рэпрэзэнтацыі, зацікаўленьне БАП Царквой сярод мясцовых чыньнікаў усьцяж павялічваецца. Сьветчыць пра гэта і такі факт, што да а. Пякарскага часта зварачаюцца карэспандэнты, якія просяць інфармацыяў з дзейнасьці нашае Царквы. Найбольш гэта адбываецца ў часе Калядных і Вялікодных сьвяткаваньняў. У мінулым годзе перад Калядамі ад газэтаў North Herts Gazette series і Midwak Wazette зьявілася аж некалькі рэпартэраў, якім а. Ян даў інфармацыю пра гісторыю, традыцыі і абрады, якія існуюць сярод нашага народу. І ўсё гэта было зьмешчана ў вышэйменаваных газэтах, разам з фотаздымкамі сьвятара.

Якое вялікае значэньне мае рэпрэзэнтацыйная праца а. Пякарскага, можна судзіць і па тым, што за кароткі час свае пастырскае дзейнасьці ён заняў належнае месца ня толькі сярод сьвятароў, але стаўся ведамым



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## ВЫНІКІ ПАСТЫРСКА-РЭГЕНЦКІХ КУРСАЎ У ПАРАФІІ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

У Вялікодным нумары „Голасу Царквы за 1961 год пісалася: „Ужо хутка год, як у Кліўлендзе добра працуе гэты, надзвычайна карысны для нашае сьв. БАПЦ, курс. За самаахвярную, Богу і нам мілую працу кіраўнікоў яго, а. Аляксандра і псаломшчыка Сп. К. Кіслага, мы можам сказаць толькі — шчырае беларускае дзякуй, а курсантам — памагай Божа!— вам будучым будаўніком нашае сьв. БАПЦарквы". У тым часе гэта былі пажаданьні толькі на паперы, а сяньня мы можам бачыць запраўдныя вынікі.

Як ведама, навучаньне на курсах адбывалася напрацягу 1961-62-63 гг. Напачатку на курс запісалася 8 слухачоў, а кончыла толькі пяць: брат Міхась Страпко, сучасны пратадыякан, сьв. пам. Уладзімер Літвінка, браты — Кастусь Калоша, М. Гумен і У. Дунец.

Пра тое, якія вынікі дало навучаньне на курсе сьветчыць наступнае: ужо ў часе навучаньня ўсе ўдзельнікі курсу прымалі актыўны ўдзел у Багаслужбах. Кожны зь іх належаў да хору і пачарзе чытаў часы, пракімены і апостала.

Ужо 21-га травеня 1967 году сучасны пратадыякан М. Страпко быў пасьвячаны ў дыяканы, і напрацягу амаль адзінаццаці год шчыра й аддана выконвае свой рэлігійны абавязак, і то ня толькі ў Кліўлендзе, а час ад часу ўпрыгожвае Багаслужбы ў іншых беларускіх парафіях.

Пасьля-ж раптоўнага паралічу рэгента хору бр. К. Кіслага, Уладзімер Літвінка адразу абняў кіаравецтва хорам і выказаў ня толькі надзвычайныя здольнасьці ў кіравецтве, але за кароткі час свае дзейнасьці ўкамплектаваў ўсе царкоўныя ноты, частку набыў новых з больш прыгожымі напевамі і пачаў іх развучваць з хорам. Нажаль ня суджана было яму выкарыстаць належна Богам дадзены талент, і пасьля аднаго году ўмелага дырыгенства, адправіўшы на першы дзень Каляд Сьв. Літургію, адыйшоў у вечнасьць. Горка аплаквалі яго ў часе пахавінаў ня толькі харыстыя, але ўсе вернікі і знаёмыя.

Здавалася-б, што хор апынуўся ў паўнейшым заняпадзе, але на ратунак прыходзіць наступны ўдзельнік Пастырска-рэгенцкіх курсаў, бр. Калоша, які, узяўшы на сябе абавязак рэгента, умела кіруе хорам да сяньняшняга дня.

Адсюль можам зрабіць выснаў, што час на навучаньне ня быў страчаны.

Заступнікам рэгента хору ў Кліўлендзкай парафіі ёсьць ведамая беларускаму грамадзтву салістка Іра Смірноў-Каляда, якая ад дзяцінства сьпявае ў хоры, ведае парадак Багаслужбаў і ня толькі кіруе хорам у адсутнасьці рэгента, але рэгулярна прыходзіць у царкву на Багаслужбы святочныя й штодзённыя, калі хор адсутнічае, і выконвае абавязкі і рэгента і чцеца ды сваім мілагучным голасам упрыгожвае Багаслужбы.

---

і галаве Англіканскае Царквы Архіепіскапу Кэнтэрберыйскаму, які запрашае яго ў сваю сядзібу Лямбас Палац, дзе зьбіраецца многа сьвятароў ад розных рэлігіяў і нацыяў, і за гарбаткай праводзяцца сяброўскія гутаркі. У гэтым годзе такое спатканьне адбылося 26-га студзеня.

**Вернік з Англіі**



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## ХРОНІКА ПАРАФІІ БАПЦАРКВЫ Ў МЭЛЬБУРНЕ

20-га лістапада 1977 г. а. Аляксандар, настаяцель Парафіі БАПЦ, ахрысьціў Аніту Сьмірноў, дачку Алексы і Уршулі. Няхай Усемагутны абдарыць Аніту добрым здароўем, каб хутка расла на славу Бога, радасьць і пацеху бацьком.

Сёлета 57-я ўгодкі Слуцкага Змаганьня Беларуская грамада ў Мэльбурне і ваколіцы ўрачыста адзначала 27-га лістапада. Урачыстасьць распачалася **Паніхідай** за ўсіх ведамых і няведамых супачыўшых суродзічаў пры супольным **Памятніку** на беларускім магільніку. Падчас паніхіды вэрнікі Парафіі БАПЦарквы і госьці шчыра маліліся за ўпакаеньне душ адыйшоўшых у вечнасьць суродзічаў. Жалобны сьпеў царкоўнага хору паніхіднымі напевамі выклікаў у многіх з прысутных сьлёзы. А. Аляксандар прамовіў прынагоднае глыбока-прачулае слова. Урачыстасьць закончылася супольным пачастункам-пікнікам у добра ведамым нашаму грамадзтву парку непадалёк Мэльбурну.

4-га сьнежня 1977 г. адыйшоў у вечнасьць Зыгмунт Аквіцкі. Цела Зыгмунта пахаванае на беларускім магільніку. Чын пахарону выканаў а. Аляксандар, кіраўнічы Парафіі БАПЦарквы.

За прыкладам мінулых год, згодна нашых традыцыяў і звычаяў, па адсьвяткаваньні Калядных Сьвят і праваду Вадохрышча а. Аляксандар наведаў хаткі суродзічаў-парафіянаў з Йарданскай вадою. З прыемнасьцю трэба адзначыць, што нашыя суродзічы, пажылыя і малодшага пакаленьня добра ведаюць і належна рэспэктуюць нашыя багатыя, хвалы годныя традыцыі — ствараюць магчымасьці для належнага выкананьня гэтага духоўнага абавязку.

Дня 22-га студзеня 1978-га году неспадзявана адыйшоў у вечнасьць добра ведамы і глыбокапаважаны наш суродзіч — пісьменьнік Альбэрт Кадняк, знаны як Алесь Салавей. Пакойны пакінуў у смутку жонку, двух сыноў і дачку ды ўнукаў. Чын пахарону выканаў а. Аляксандар. Цела пахаванае на беларускім магільніку ў Мэльбурне. **Супакой душы Яго!**

Дня 23-га студзеня 1978 г. ў Мэльбурне з ініцыятывы Аўстралійскага Консулу Цэркваў (Australian Counsil of Churches) адбылася канферэнцыя духавенства цэркваў, улучна з прадстаўнікамі сьвятовай арганізацыі цэркваў. Парафію БАПЦарквы рэпрэзэнтаваў а. Аляксандар.

29-га студзеня 1978 году а. Аляксандар, настаяцель Мэльбурнскай Парафіі БАПЦарквы ахрысьціў Уладзімера Дурыч, сына Срэтана і Эміны Дурыч. Няхай Бог абдорыць Уладзімера і бацькоў ягоных добрым здароўем і памысным жыцьцём, каб Уладзімер хутка рос на Славу Бога, радасьць бацьком і людзям добрае волі. Дай Божа.

Дня 5-га лютага 1978 г. адбыўся Чарговы Гадавы Парафіяльны Справаздачны Сход. Справаздача Кіраўнічага Парафіі а. Аляксандра паказвае, што дзейнасьць Мэльбурнскай Парафіі значна пашыраецца. На асаблівую ўвагу заслугоўвае ўдзел нашае моладзі ў царкоўным жыцьці. Справаздача скарбніка выяўляе, што не зважаючы на павялічаныя выдаткі, стан касы значна павялічыўся за астатні год. Было абгаворана і прынята рад пастаноў, якія могуць паслужыць далейшаму разьвіцьцю Мэльбурнскай Парафіі БАПЦарквы.

17-га лютага 1978 г. Мэльбурнская Парафія БАПЦ была запрошана на афіцыйнае сьвяткаваньне 60-тых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Літоўскае Дзяржавы. На ўрачыстасьці прысутнічалі прадстаўнікі рэлігійных, грамадзкіх і палітычных колаў, улучна з парлямэнтарыямі, штацкімі і фэдэральнымі. Парафію БАПЦарквы рэпрэзэнтавалі а. Аляксандар з Матушкай.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## МІСІЙНАЯ БАГАСЛУЖБА НА НЯДЗЕЛЮ ПРАВАСЛАЎЯ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

У нядзелю 19 сакавіка сёлета ў украінскім Катэдральным Саборы сьв. Ўладзімера была адпраўлена супольная Вячэрня прысьвячаная Нядзелі Праваслаўя. Удзел у Багаслужбе прымалі: Беларускае, Украінскае і Сэрбскае духавенства. Узначальваў Багаслужбу Мітрапаліт Андрэй з БАПЦарквы.

Распачалася Вячэрня роўна а 5-й гадзіне. Каля сьв. Прастолу вялікага і прыгожага Сабору разьмясьцілася 9 асоб духавенства, і Ўладыка Андрэй урачыста з рэлігійным пачуцьцём дабрасловіў пачатак Вячэрні, а сьвятары пачарзе прагалошвалі Экценьні ў мовах украінскай і славянскай і з дакладнасьцю выконвалі пасьлядоўнасьць прысьвячанай гэтаму дню Вячэрні. Сьпеў лічнага і добра зарганізаванага хору, пад кіравецтвам здольнага рэгента, спрыяў малітвенаму настрою малельнікаў.

Да галоўных-жа асаблівасьцяў Багаслужбы належаў той мамэнт, калі ўсё духавенства зь іконамі выйшла на сярэдзіну Сабору. Гэта ёсьць сымбалічны напамін пра тое, як пасьля доўгіх гадоў ганьбеньня і нішчэньня Іконаў, нарэшце на Саборах у 787-842 гг., на якіх удзельнічала 367 Епіскапаў, пасьля перагляду дагматаў пра шанаваньне Іконаў у Старым і Новым Запаветах, было пастаноўлена:

„Як вызнавалі прарокі, як навучалі Апосталы, як прызнала Ўсяленская Царква, разьвеялася няпраўда, як было выяўлена прамудрасьцю, і як Хрыстос учыніў быць годнымі, —

**ТАК І МЫ,**

заяўляем, сьцьвярджаем і прапаведуем Хрыста, як нашага запраўднага Бога, а сьвятых Яго ўшаноўваем словамі, малітвамі і міластынямі ў цэрквах, і перад сьвятымі Іконамі Хрысту пакланяемся як Богу Госпаду нашаму, а Яго сьвятых, як праўдзівых слугаў, годна шануем і славім.

Гэта ёсьць вера Апосталаў, гэта ёсьць вера Айцоў Царквы, гэта ёсьць вера праваслаўная, — гэта ёсьць вера, што ўцьвярдзіла і асьвяціла Ўсяленную. А м і н." Іконы былі пастаўлены на аналой. Сінодыкан гэты быў прачытаны пасьля вынасу Іконаў на сярэдзіну Сабору, і чын Вячэрні прадаўжаўся далей.

Пасьля ўміленных трапароў: Багародзіца Дзева радуйся . . . Хрысьціцелю Хрыстовы . . . Малецеся за нас, Сьвятыя Апосталы . . , духавенства і ўсе прысутныя ўміленна чыняць зямныя паклоны. Чытаецца малітва „Пад Тваю міласьць" . . . і „Цару Нябесны" і малітва сьв. Ефрэма Сірына з вялікімі паклонамі, праслаўляецца Прасьвятая Багародзіца і адбываецца водпуск ды пасьля гучнага і працяжнага „Мнагалецьця", малельнікі, цалуючы іконы і крыж, з ціхай жалобай на душы разыходзяцца з Сабору.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

# ЦЭНТР БАПЦ

На Радзе Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы 22-га травеня 1977 году было пастаноўлена пабудаваць новы будынак на зямлі Парафіі Сьвятой Тройцы ў Дораты, Нью Джэрзі, дзе была-б сталая сядзіба Мітрапаліта БАПЦ, канцылярыя Кансысторыі БАПЦ, архіў і бібліятэка. Кажнаму сьведамаму беларусу ведама, якое вялікае рэлігійна-нацыянальнае значаньне мае існаваньне ў Вольным Сьвеце свае незалежнае Царквы, у той час, калі на Бацькаўшчыне Беларусі Праваслаўная Царква бязмала зьнішчана, якая мае толькі аднаго епархіяльнага епіскапа Мітрапаліта Антонія на ўсю БССР, вызначанага Маскоўскім патрыярхатам, пры наяўнасьці каля соткі парафіяў, пераважна ў Заходняй Беларусі. А паводля статыстыкі з 1914 году на этнаграфічнай Беларусі было дзейных каля 5-ці тысячаў цэркваў і капліцаў.

Аднаўленая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква — 5-га чэрвеня 1948 году — будзе адзначаць сёлета 30-цілецьце існаваньня ў Заходняй Гэмісфэры.

У часе 27-29 травеня 1972 году, на 2-м Саборы БАПЦ ў Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Джэрзі, ЗША, пры ўдзеле Епіскапаў, духавенства і прадстаўнікоў ад усіх парафіяў, адбыўся выбар і пастаўленьне Мітрапаліта БАПЦ Архіепіскапа Андрэя. Аб гэтым даведзена да ведама Усяленскаму Канстантынопальскаму Патрыярху Дэмітрыёсу І, мэмарыялам з 3-га кастрычніка 1972 году. Пасьля гэтага была ўстаноўлена духовая лучнасьць Мітрапаліта БАПЦ праз малітвеныя памінаньні і ўзаемныя віншаваньні з Вялікімі Сьвятамі Нараджэньня і Уваскрасеньня Хрыстовага — з Патрыярхамі, Першагерархамі і Епіскапамі Праваслаўных Цэркваў, аб чым падавалася ў нашым часапісе „Голас Царквы".

Мы лічым, што беларуская эміграцыя, паселеная ў краінах Вольнага Сьвту, мае поўную магчымасьць выканаць пабудову будынку для Цэнтру БАПЦ, збольшанымі ахвярамі сваіх вернікаў. Мы бачым тут, як іншыя Праваслаўныя Цэрквы будуюць высокакаштоўныя храмы і будынкі пры вялікай ахвярнасьці. Не паскупемся-ж і мы гэтым разам!

Паводля прыблізнай ацэны, будынак паказанага праекту ў газэце „Беларускі Час" будзе каштаваць 50-60 тысячаў даляраў, пры дадатку свае ахвярнае працы некаторых парафіянаў з бліжэйшых парафіяў БАПЦ.

Будзем спадзявацца, што з Божаю дапамогаю і ахвярнасьцю вернікаў выканаем гэтае пачэснае заданьне.

**Кансысторыя БАПЦ**





© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## З БССР

### НА БЕЛАРУСІ АСАБЛІВЫ АНТЫРЭЛІГІЙНЫ ЦІСК

Газэта „Нью-Ёрк Таймс" за 14 сьнежня 1977 г. апублікавала допіс свайго карэспандэнта Дэйвіда Шыплера зь Вільні пра долю двух хрысьціянаў у Савецкім Саюзе: з аднаго боку — лятувіскага каталіцкага сьвятара, якому савецкая ўлада дала, хоць і абмежаныя, магчымасьці служыць багаслужбы ў сваім касьцеле, спавядаць вернікаў, езьдзіць па Савецкім Саюзе з пэўнымі выгодамі што да начлегу ў гатэлях ды нат двойчы наведаць Амэрыку, а з другога — сталяра-пяцьдзесятніка, таксама жыхара Вільні, Віктара Васільева, якога ўлады перасьледуюць на кажным кроку, які мусіць хаваючыся хадзіць на свае малітвеныя сходы, зь дзяцей якога зьдзекуюцца ў школе настаўнікі й школьнікі ды якому аніяк не даюць магчымасьці выэміграваць з СССР у ЗША, не зважаючы на тое, што Васільеў ужо даўно дамагаецца гэткага выезду. Пры гэтым „Нью-Ёрк Таймс" адзначае: „Аднак, Васільеў уважае, што ў Ліцьве лягчэй жыць як на Беларусі, прыкладам, дзе ціск большы ды дзе ў мінулым дзяцей забіралі спад апекі іхных бацькоў, каб не дапусьціць да ўзгадаваньня іх на рэлігійных людзей".

### КРЫХУ ЛІЧБАЎ

У сталіцы БССР гор. Менску цяпер жыве больш за 1,2 мільёну чалавек.

Насельніцтва БССР — 9,5 мільёну чалавек (81% — Беларусы). У гарадох жыве 53% насельніцтва, у сельскай мясцовасьці 47 (у 1913 годзе было 14% гарадзкога жыхарства і 86% сельскага). Пераважная частка насельніцтва (звыш 86 працэнтаў) — людзі, якія нарадзіліся пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі. Па колькасьці жыхароў БССР займае пятае месца сярод рэспублік СССР. У БССР жывуць і працуюць прадстаўнікі звыш 100 нацыянальнасьцяў і народнасьцяў. (Паводля „Голасу Радзімы" № 4, 26 студзеня 1978 г., арт. „Мы-Беларусы").

„Сёньня Мінску патрэбны рабочыя і служачыя больш як 300 спэцыяльнасьцяў. А прапанова яўна адстае ад попыту. У чым прычыны і якія шляхі вырашэньня праблемы рабочых рук? Адказвае намесьнік старшыні Дзржпляну Беларускай ССР Міхаіл Заваротны:

„Адна з галоўных прычын такога дэфіцыту — вынікі другой сусьветнай вайны. У Беларусі яна забрала 2 мільёны 200 тысяч жыцьцяў.

---

**Да гэтага часу прысланыя ў касу Кансысторыі на Фонд Будовы Цэнтру БАПЦ наступныя ахвяры:**

1. Ад Парафіі Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта — Канада — 1,371.00; 2. Ад Інж. Мікалая Гарошкі — 1,000.00; 3. Ад Інж. Яна Бруцкага — 1,000.00; 4. Д-ра Язэпа Сажыча — 600.00; 5. Парафіі ў Адэляйдзе — Аўстралія — 554.00; 6. Д-ра Расьціслава Гарошкі — 500.00; 7. Анатоля Лук'янчыка — 500.00; 8. Лук'ян Мэтал Прадукт — 500.00; 9. Парафіі ў Мэльбурне — Аўстралія — 307.00; 10. Лева Наркевіча з Канады — 200.00; 11. Парафіяў Манчэстэр-Брадфорд у Англіі — 132.00; 12. Мікалая Грэбеня — 100.00; 13. Кастуся Вераб'я — 100.00; 14. Прат. Васіля Кендыша — 100.00; 15. іншых — 257.00.

**Разам: 7,221.00**



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## ЗАЦІРАНЬНЕ СЬЛЯДОЎ ВАНДАЛІЗМУ

Як звычайна, ня толькі адмысловыя агіткі, але і ўся падсавецкая прэса служыць прапагандзе савецкага ладу, а хвалебная ілжа прапаіла ўсё падсавецкае жыцьцё, а друк перадусім. Тон задаў Ленін, асновапаложнік і настаўнік бальшавізму. Аднак-жа, з гэтае пахвальбы часта вынікае барбарская запраўднасьць. Вось артыкул у № 7-ым агіткі „Голасу Радзімы" за 16-га лютага 1978 году, — „Няўміручая воля зямлі".

„З вокнаў будынку, дзе разьмяшчаецца рэдакцыя „Голасу Радзімы", добра відаць Залатая Горка. На ёй увесь у рыштаваньнях касьцёл. Восеньню спэцыялісты навукова-рэстаўрацыйных майстэрань Міністэрства культуры БССР паводля зацьверджанага праекту распачалі тут работы.

Як-жа ён, адноўлены помнік, паслужыць нам? Пасьля таго, як рэстаўратары вернуць яму першапачатковы зьнешні выгляд, усярэдзіне абсталююць залу для камернай музыкі, там-жа установяць арган; выставачная зала будзе адведзена для беларускай драўлянай скульптуры, тут-жа будуць прадстаўлены і копіі антычных культур . . .

Далей: „На дваццаці помніках архітэктуры вялі летась работы рэстаўратары майстэрань. Закончана, напрыклад, аднаўленьне царквы ў Заслаўі, дзе адчыняецца музей рамёстваў і народных промыслаў; ідзе рэстаўрацыя будынку на Нямізе, у якім разьмяшчаецца Архіў-музэй літаратуры і мастацтва.

„У Раўбічах, што пад Мінскам, ля спартыўнага комплексу, абноўленыя белыя вежы Крастагорскага касьцёлу. Там ствараецца філіял Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Хутка наведвальнікі ўбачаць у экспазыцыях даўняе і сучаснае народнае ткацтва, разьбу па дрэву (стыль „Голасу Радзімы" — Рэд.), вырабы з саломкі.

„Зараз рэстаўратары кіруюцца ў сваёй рабоце законам Саюза ССР — Аб выкарыстаньні помнікаў гісторыі і культуры. Дзяржава выдаткуе немалыя сродкі на аднаўленьне і захаваньне помнікаў, дбае, каб яны сталі духоўнай каштоўнасьцяй усяго грамадзтва".

Якія-ж могуць быць „духоўныя каштоўнасьці" там, дзе матэрыялізм іх катэгарычна адкідае, дзе дзяржава кіруецца ня „духоўнамі каштоўнасьцямі", але тэрорам і душагубствам, дзе на месцы раней сумыслу зруйнаваных сьвятыняў, па рэстаўрацыі будуць наладжваць „вырабы з саломкі"?

Аўтар пададзенага нарысу паэт Сяргей Панізьнік, блытаючыся ў гэтым нарысе, суправаджаючы кажную рэстаўраваную руіну вершыкам, закончвае свой нарыс гэткім паўсьмяротным вершам, — падаецца з невялікім скаротам.

Гарадзішча над Дзьвіной, Сафія.
Лікі праступаюць са сьцяны . . .
Продкі, продкі, хіба-ж мы глухія
у наш час абуджанай вясны!
Нам пад электроннае куваньне
быль ня ўспомніць — не цаніць і дня.
Продкаў векавое адчуваньне —
Наша далеч, наша вышыня.

Не, брат Панізьнік, калі-б было „продкаў векавое адчуваньне" дык, папершае, не руйнавалі-б сьвятыняў, а па-другое, па рэстаўрацыі прызначылі-б для тых мэтаў, дзеля якіх продкі будавалі. Дык не займайся, браце, замазваньнем крывавых ранаў і не танцуй басанож па вогнішчы.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

**СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ**  **ВЕРА ЯКІМЭНКО**

Пасьля зацяжное хваробы, 24-га сьнежня 1977 году адыйшла ў вечнасьць сьв. памяці ВЕРА ЯКІМЭНКО — Матушка першага Настаяцеля БАПЦарквы Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе.

Памерла ў доме для старцаў у Лорэне.

Пахавана 27 сьнежня на магільніку „Рывэрсайд" у Кліўлендзе каля магілы свайго мужа, які памёр 18-га верасьня 1963 году.

Няхай Госпад Бог упакоіць душы іх, дзе ўсе праведнікі спачываюць. Ад імя Парафіі — **Уладыка Андрэй**

**Т. Л.**

## ЛІСТЫ ДА СЯБРА

**Ліст другі**

Інзоў пішу,
Бо сум ізноў бяз меры;
Пішу табе
З сібірскае глушы.
Часамі горыч
Вылье́ш на паперы,
І ўсё лягчэй
Здаецца для душы.

. . . Шырокі бэз
Цьвіце над родным домам,
Цьвітуць сады над рэчкаю . . .
А тут! . .
Табе, мой дружа,
Многа невядома
Пра гэты край
Няшчасьця і пакут.

Тут кажны дзень
Нам новы сум прыносіць
Тут кажны дзень
Прыносіць новы жах.
Мы так жывём,
Што кажны пазайздросьціць
Жыцьцю ранейшаму
Ранейшых катаржан.

Ты чуў нраз
Чыгунку за Байкалам,
Ды мо ня чуў
Пра зьдзекі і прымус:
Бо тут цяпер
Амаль пад кожнай шпалай
Ляжыць замучаны
ў выгнаньні Беларус.

Ліхія злодзеі! . .
Яны ілгуць нямала
Пра Беламор
Сібір
І пра Байкал.
Павер жа мне,
Што ні адзінай шпалы
Не дакранала́ся
Падлючая рука!

Іх колькі тут
Забітых, безгалосых,
Касьцьмі нраз
Угнойвалі ральлю! . .
Іх колькі тут,
Часамі навет босых,
Капаць зганялі
Мерзлую зямлю!

Шырокі бэз
Цьвіце над родным домам . . .
Цьвітуць сады над рэчкаю . . .
А тут! . .
Табе, мой дружа,
Многа невядома
Пра гэты край
Няшчасьця і пакут.

Ой, пралягла
Чыгунка за Байкалам
Паміж узгор'яў
Роўна, бы абрус;
Цяпер на ёй
Амаль пад кажнай шпалай
Ляжыць замучаны
у выгнаньні Беларус.

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

## ВЫВІХІ АГІТПРОПУ

Агітка „Голас Радзімы" (№ 6, ад 9.2.1978, Менск) піша: „У высокаразьвітых капіталістычных краінах, напрыклад, Злучаных Штатах Амэрыкі, Англіі, Швэцыі і іншых, пэнсіі, як правіла, не перавышаюць чвэрці заработнай платы, з якой яны вызначаліся. Прытым дзеля эканоміі сродкаў устаноўлен высокі пэнсійны ўзрост ад 65 да 67 гадоў. У нашай-жа краіне ніхто не атрымлівае пэнсію, меншую за палавіну свайго сярэдняга заработку, а многія і наогул у поўным разьмеры. За кошт дзяржавы яна часткова налічваецца тым, хто адпрацаваў хоць-бы і пяць гадоў, і цалкам, калі да 60-гадовага ўзросту мужчына адпрацаваў 25 гадоў, а жанчына ў 55 год мае 20-цігадовы вытворчы стаж". (З артыкулу „Чалавек у трэцім узросьце, аўтар Пётр Судакоў).

Для выяўленьня напісанай ілжы падаём дакладныя дакумэнтальныя дадзеныя аднаго пэнсіянера ў Амэрыцы. Працаваў з 1952 па 1964 год, усяго 12 гадоў; зарабляў апошнімі гадамі каля 80 даляраў на тыдзень, гэта значыць 320 на месяц; цяпер атрымлівае пэнсію 241 даляр. Дык якая гэта частка ад 320, „таварыш" Судакоў? Трэба яшчэ адцеміць, што пэнсія, пададзеная тут, вымерана пад агульным законам для ўсіх, хоць памянёная асоба ня мае амэрыканскага падданства. І яшчэ: пры вымярэньні пэнсіі тут ня так стаж бярэцца пад увагу, як узгляд на тое, каб чалавек пры найменшай пэнсіі, хоць бедна, але мог пражыць. Дык у „капіталістычных" краінах чалавек яшчэ ўсё-ж вартасьнейшы за стаж. А страціў чалавек гэтую вартасьць толькі ў бальшавікоў.

Параўнаньне-ж чвэрці заработнай платы амэрыканскай з палавінай заплаты савецкай зробім у канцы гэтай зацемкі. Перш зробім другую выпіску з таго-ж нумару „Голасу Радзімы", з артыкулу „Складаемыя дабрабыту", аўтарства ўжо кандыдата гістарычных навук Аляксандра Восіпава. (Можа варта тут адцеміць, што прозьвішчы, як Судакоў, так Восіпаў штось не „радзімыя" для Беларусаў). Але . . .

„Толькі ў дзявятай пяцігодцы (1971-1975) была, напрыклад, павышана заработная плата 55-ці мільёнам рабочых і служачых матар'яльнай вытворчасьці і прыкладна 5-ці мільёнам урачоў, настаўнікаў, выхавальнікаў.

**„У 1976-1980-х гадох намечана павысіць мінімальныя разьмеры заработнай платы да 70-ці рублёў у месяц** з адначасовым павялічэньнем ставак і акладаў сярэднеаплачваных катэгорыяў работнікаў у нявытворчых галінах народнай гаспадаркі. Аб маштабах гэтага замеру можна уяўляць хоць-бы з такой лічбы: павялічэньне аплаты працы распаўсюджваецца прыкладна на 31 мільён чалавек.

Гаворачы-ж аб сярэдняй заработнай плаце ў СССР, адзначым, што ў 1965 годзе яна складала 96,5 рубля, а за наступныя дзесяць год (восьмая і дзявятая пяцігодкі) узрасла да 145,8 рубля".

Нявыразна сказана пра мінімальныя памеры зарплаты: ці ў тыя 31 мільён чалавек увайходзіць некаторы лік сярэдняаплачваных катэгорыяў работнікаў, ці ўсе 31 мільён маюць аплату меншую за 70 рублёў?

Нарэшце параўнаем амэрыканскую чвэртку з савецкай палавінай. Як ужо сказана, амэрыканскі работнік мазалёвай працы атрымліваў яшчэ ў 1964-65 гадох 320 даляраў на месяц; чацьвёртая частка з гэтага — 80 даляраў. Работнік савецкі адпаведнай катэгорыі атрымлівае — возьмем ужо поўныя — 70 рублёў: палавіна з гэтага 35 рублёў.

Дык вось яно і паказваецца, што амэрыканская чвэртка ўдвая большая за савецкую палавіну. Датаго-ж, рубель нярварты даляра.

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019